Ідзе падпіска на другую палову 2013 года. Не спазніцеся!

№ 42 (3783)

31 мая 2013 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля



БЕЛАРУСЬ—ЕЎРОПА

## На свабоду!

*Справа палітычных вязняў у Беларусі застаецца прыярытэтам у дачыненнях Еўрасаюза з афіцыйным Мінскам. Гэта яшчэ раз пацвердзіў віцэ-старшыня Еўрапейскага парламента **Яцэк Пратасевіч.***



*“На мой погляд, калі палітвязні не будуць вызвалены, то саміт “Усходняга партнёрства” ў Вільнюсе павінен адбывацца без удзелу афіцыйных прадстаўнікоў Беларусі. Няма патрэбы запрашаць ні Аляксандра Лукашэнку, ні міністра замежных спраў да таго часу, пакуль палітвязні ў Беларусі не будуць вызваленыя з турмаў”,* — заявіў спадар Пратасевіч.

Нагадаем, што саміт “Усходняга партнёрства” ў Вільнюсе пройдзе ў лістападзе гэтага года. Паводле меркавання еўрапейскіх палітыкаў, на віленскі саміт папярэдне было вырашана запрасіць беларускага міністра замежных спраў **Уладзіміра Макея**. Што азначала б для Макея фактычнае выключэнне са спіса неўязных у ЕС. Аднак афіцыйны Мінск хоча большага — запрашэння прыехаць у Вільнюс персанальна для **Аляксандра Лукашэнкі**. Гарантый на гэты конт ЕС не дае. Па адной з версій, гэта і з’яўляецца прычынай таго, што палітвязні застаюцца ў турмах, хаця папярэдне беларускія афіцыйныя асобы давалі ўсялякія знакі, што праблема будзе вырашана.

## *Галіна СМІРНОВА:* «Мы выйдзем на вуліцы...»

Мясцовая дэмакратычная рада абвясціла пра тое, што збіраецца зладзіць акцыю сярод бабруйчан — каб як мага больш людзей далучыліся да падтрымкі іх земляка, палітвязня Яўгена Васьковіча, і паспрабавалі пераканаць яго падаць прашэнне аб памілаванні.

*“Мы выйдзем на вуліцы, будзем спыняць людзей і прасіць іх, каб яны напісалі Яўгену словы падтрымкі і пераканалі напісаць прашэнне аб памілаванні. Я лічу, што гэта неабходна, што Жэня мае падаць прашэнне — што б там хто пра яго потым ні сказаў. Ён паказаў ужо сябе — і сваю смеласць, і моц, і з гэтымі якасцямі ён нам патрэбны тут, на волі”,* — кажа каардынатар прафсаюза РЭП у Бабруйску Галіна Смірнова.

Тэрмін зняволення Васьковіча заканчваецца толькі ў 2018 годзе, і спадарыня Смірнова непакоіцца, што за гэты час з маладзёнам можа нешта здарыцца: *“Гэта не год і не два. Ён і здароўе там сваё згубіць, і хто ведае, якім стане там — у ізаляцыі, ды, самі разумееце, з якім кантынгентам. А ён жа — малады хлопец. Няма сэнсу яму там сядзець і губляць свае найлепшыя гады”.*

Яўген Васьковіч быў асуджаны ў 2011 годзе разам з Паўлам Сырамолатавым і Арцёмам Пракапенкам на 7 гадоў пазбаўлення волі за спробу падпалу будынка КДБ у Бабруйску.

Павал Сырамолатаў у верасні 2012 года напісаў прашэнне аб памілаванні на імя Лукашэнкі і выйшаў на волю. А вось Яўген катэгарычна адмаўляецца пісаць прашэнне і працягвае адбываць пакаранне ў магілёўскай турме №4.

Яўгенава бабуля Тамара Васьковіч пацвярджае, што ў лістах ён неаднойчы пісаў ёй, каб яго не прасілі ды не пераконвалі, бо ён не напіша прашэння ні ў якім выпадку і да канца будзе “несці свой крыж за Беларусь”.

ПАЛІТЫКА

## *Дэбют*

*Першым мерапрыемствам, якое прыме толькі што адрэстаўраваны “Прэзідэнт-атэль”, стане сустрэча кіраўнікоў урадаў дзяржаў СНД.*

Яна пройдзе сёння, 31 мая. Цікава, што першае ж запланаванае мерапрыемства паказала наяўнасць дробных недапрацовак. Так, перад атэлем не хапіла флагштокаў. Іх давялося тэрмінова ўсталёўваць, каб не пакрыўдзіць ні адну з дзяржаў Садружнасці.

Парадак дня сённяшняй сустрэчы ўключае 31 пытанне. Паводле папярэдняй інфармацыі, чатыры дэлегацыі — Азербайджана, Малдовы, Туркменістана і Узбекістана — будуць узначальваць не кіраўнікі ўрадаў, а віцэ-прэм’еры.

А вось сустрэча міністраў фінансаў краін СНД, якая таксама павінна была адбыцца ў Мінску, адменена. Па прычыне занятасці чыноўнікаў, адказных за фінансы.

САНКЦЫІ

## *Злітасціваліся*

*Злучаныя Штаты Амерыкі вырашылі не працягваць санкцыі ў дачыненні да Беларускага оптыка-механічнага аб’яднання.*

Нагадаем, нядаўна былі спынены санкцыі ў дачыненні да “Белтэхэкспарту”. Цяпер прыйшла чарга яшчэ адной кампаніі. Прычым, як кажуць у БелОМА, ніякіх захадаў для таго, каб выйсці з-пад рэжыму санкцый, прадпрыемства не рабіла.

СПОРТ

## *Цішком?..*

Галоўнага трэнера хакейнай зборнай у чацвер мянялі цішком. Калі вярстаўся гэты нумар, Андрэй Скабелка, які займаў гэтую пасаду апошнія месяцы, нават не ведаў, які мае статус.

Напярэдадні ў Мінск прыбыў канадзец Глен Хэнлан, які ўжо трэніраваў беларускую зборную, але нічога выдатнага не дабіўся. Згодна з неафіцыйнай інфармацыяй, Хэнлан абмяркоўваў умовы кантракта і з радасцю пагадзіўся вярнуцца ў Беларусь. Але ці будзем радавацца мы яго вяртанню?

ГОСЦІ

## *Як на лецішча*

Пасля таго як расійскія чыноўнікі пачалі апублікоўваць свае дэкларацыі аб даходах за 2012 год, высветлілася, што некаторыя з іх маюць маёмасць у нашай краіне.

Так, невялікі дом (57 квадратных метраў) у Беларусі мае мэр Калінінграда Аляксандр Ярашук. Зрэшты, Калінінград ад нас блізка, можна прыязджаць у Беларусь, як на дачу. А вось з Ханты-Мансійска не наездзішся. Тым не менш галоўны ідэолаг Ханты-Мансійскай аўтаномнай акругі Андрэй Філатаў, як высветлілася, мае ў Беларусі кватэру плошчай 93,6 кв. метра. Вядомы расійскі журналіст Сяргей Дарэнка нядаўна прызнаўся, што пасля разводу з жонкай пакінуў ёй ажно чатыры кватэры ў Беларусі...

АНОНС

## *Эвалдас ИГНАТАВИЧЮС, Чрезвычайный и Полномочный посол Литвы в Беларуси:* «Я — сторонник классической дипломатии»

*В диалоге между Беларусью и Европейским Союзом есть некоторые ограничения, которые Литва как ближайший сосед чувствует наиболее ощутимо, но есть и хорошая динамика, поиск, как эту ситуацию изменить. И в простом общении, я вижу, где можно подтянуться. Самые простые примеры — это очереди на границах, ситуация с визами, стоимость виз.*



**Интервью с Чрезвычайным и Полномочным послом Литвы в Республике Беларусь Эвалдасом ИГНАТАВИЧЮСОМ** **читайте на 3-й стр.**

ГУЧНАЯ СПРАВА

## Вакол адны шпіёны...

Працэс па крымінальнай справе 23-гадовага аператара “Нафтана”, якога вінавацяць у “здрадзе дзяржаве”, пройдзе ў Віцебскім абласным судзе. Хлопца перавезлі ўжо ў гэты горад са следчага ізалятара КДБ у Мінску.

Вольга Гайдукова, яго маці, спадзяецца, што працэс зробяць адкрытым, каб усе маглі ведаць падрабязнасці гэтай справы. Бо абвінавачванні ў шпіянажы звычайнага наваполацкага хлопца шмат каму падаюцца абсурднымі.

“Я не ўяўляю, што ён мог такога зрабіць, каб трапіць пад артыкул, дзе прадугледжана пакаранне ад 7 да 15 гадоў! Справа не ў працы — якія дзяржаўныя таямніцы можа ведаць шараговы работнік “Нафтана”? Значыць, “вінавата” грамадская дзейнасць! Ён хадзіў на маўклівыя акцыі пратэсту, быў назіральнікам на выбарах, у камандзе Саннікава і мясцовых нашых апазіцыйных вылучэнцаў. Яму пагражалі, каб не лез у палітыку, але ці пераканаеш? Скажу так: я не ведаю большага патрыёта, чым Андрэй! Бо тыя, хто хацеў выгод для сябе, даўно з’ехалі за мяжу. Так і сказалі: “Хачу добра жыць, таму ў гэтай краіне мне рабіць няма чаго! Андрэй хацеў, каб усім было добра тут. Можа, справа ў той арганізацыі, што ён хацеў зарэгістраваць? “Саюз маладых інтэлектуалаў”, міжнародная арганізацыя. Некаторыя хлопцы адступіліся ад гэтай ідэі, а ён вырашыў, што яна мусіць існаваць. Рыхтаваў дакументы, якраз перад самым арыштам...”

Нагадаем, што Андрэй Гайдукоў быў арыштаваны 8 лістапада 2012 года ў Віцебску, нібыта “падчас закладкі тайніка са звесткамі, якія могуць цікавіць замежныя спецслужбы” — так гаварылася ў афіцыйным паведамленні КДБ. Але якія таямніцы мог перадаваць звычайны рабочы “Нафтана”, так і не зразумела. Дарэчы, камп’ютар Андрэя, які спецслужбы забралі падчасператрусу, сям’і вярнулі без усялякіх тлумачэнняў.

### ТЫМ ЧАСАМ

У чацвер стала вядома, што супрацоўнікі КДБ затрымалі ў Мінску мужчыну па падазрэнні ў зборы інфармацыі для замежнай разведкі. Пра гэта паведаміў журналістам старшыня Камітэта дзяржбяспекі Валерый Вакульчык. Пры гэтым ён адмовіўся паведаміць, для разведкі якой краіны вёўся збор інфармацыі, спаслаўшыся на аператыўныя інтарэсы. Аднак старшыня КДБ адзначыў, што падазроны быў затрыманы з доказамі злачынства.

ДИСКУССИЯ

*Иван АНТАШКЕВИЧ,*
*Анатолий ЛЕВКОВИЧ*

## Диалог и новая политика

### Эксклюзивность времени

В недавнем послании народу А.Лукашенко говорил о модернизации, обновлении, возрастании скорости перемен в мире и это очень правильные слова, из которых надо бы делать соответствующие выводы и практические шаги. К примеру, в царской России госсектор составлял 10—15%, в то время как в СССР 100%. Отчего последний и распался. Это урок? Еще какой! Стопроцентная госсобственность и монополия власти КПСС породили жесточайшую деспотию государства. Это урок? Урок! Сегодня, на первом этапе укрепления белорусской государственности, мы именно оттуда, из СССР идем, а точнее уже 20 лет плетемся, поскольку отставание страны в динамично развивающемся мире нарастает, в чем А.Г.Лукашенко мог убедиться во время визита, например, в тот же Сингапур.

Если недавняя история преподала такие жесточайшие уроки, то почему государство по-прежнему владеет почти 80% собственности, и власть имеет все признаки монополии? Почему правильно произнесенные слова главы государства не сопровождаются соответствующими политическими, экономическими и другими реформами? Почему власть хронически запаздывает с реформами, что тормозит развитие страны? О каком обновлении и модернизации можно говорить всерьез, если не предвидится перемен в главном? Например, в социалистической или социал-демократической Швеции госсобственность составляет лишь около 10%. Подобная ситуация в Германии, где государственная собственность бывшей ГДР была быстро реформирована. Недавно немецкие социал-демократы опубликовали свою предвыборную платформу: минимальная оплата труда — 8,5 евро в час, или около 17 миллионов белорусских рублей в месяц. Минимальная трудовая пенсия — 850 евро, или 9,5 миллиона белорусских рублей. Предусматривается отмена платы не только за дошкольные учреждения, но и за учебу в высших учебных заведениях и т.д. А руководство Беларуси по привычке проводит советскую политику, сохраняя госсобственность и монополию власти. И это в то время, когда мир уже одной ногой стоит в суперинновационном технологическом будущем. Кто же из сведущих граждан поверит в правильные слова Послания, если на практике преимущественно осуществляются обычные советские подходы, когда, к примеру, те же инвестиции в госсобственность просто профукают и разворуют? Поэтому и уезжают белорусы из страны. Большинство на заработки, а кто и в эмиграцию, навсегда. Люди все меньше верят власти. Где же выход? Заглянем в будущее, всматриваясь в прошлое.

Прежде всего надо учитывать эксклюзивность нашего времени. Мы живем в век величайших научных открытий и технологических достижений, щупая техническими инструментами не только Солнечную систему, но и всю Вселенную. Стремительное развитие значительно ускорило интеграционное единение человечества. Несмотря на противоречия, конфликты и даже войны, цивилизация уже сегодня является единой планетарной семьей. Этим обусловлены тренды по выработке общих ценностей и целей, по утверждению общих стандартов о правах и свободах человека. Цивилизация нуждается в объединении перед планетарными и космическими вызовами и угрозами, и в первую очередь перед рисками от самого социума. В этом смысле XXI столетие становится веком самого высокого риска и величайшей ответственности.

Накануне XXI века распался СССР, появилась независимая Беларусь и началась ее новая интеграция с Россией в главной роли. Это с одной стороны. С другой стороны, требуется интеграционное партнерство Беларуси с Западом и всем глобальным миром. Вся история цивилизации сопровождалась интеграционными и объединительными процессами, которые, как известно, осуществлялись в основном насильственным и военным путем. Ныне требуется мирное объединение, поскольку при наличии небывалых ранее средств массового поражения гуманитарные аспекты становятся главными императивами выживаемости человечества. Объединение и интеграция в глобальном мире — это закон выживаемости современного социума, что не оставляет иного выбора и для Беларуси. Нам надо подчиниться этому закону. Поэтому особый путь для Беларуси должен учитывать интеграционные и объединительные закономерности глобального развития.

Особый путь Беларуси можно объяснить лишь как временный период, первоначальный этап в становлении независимости страны после распада СССР. Прямо скажем, этот путь обрел белорусскую специфику по причине искусственного торможения (в силу экономических, социальных и политических причин), что, вероятно, в метаисторическом смысле, было необходимым для интеграционного объединения с Россией. С учетом неизбежности подписания документов об образовании Евразийского союза этот путь будет завершен и для Республики наступит ответственная пора начать интенсивное движение за всем цивилизованным миром. Особенно в той части, где мы отстаем. Придется отбросить как помеху отжившее советское наследие в управлении страной и приступить к энергичным и прагматичным реформам, которые должны быть адекватными современным требованиям. Сегодня об этом все чаще говорит белорусская общественность и почти 80% граждан Беларуси желают таких перемен. Примерно 30% белорусов, которые занимают взвешенную позицию и которых условно можно назвать “средним классом”, хотят стабильного и динамичного развития и желают влиять на общественные и политические процессы в стране. Причем уже не только активная часть общества, но и в некоторых коридорах власти начинают осознавать необходимость динамичных перемен (правда, вслух об этом пока предпочитают не говорить).

Все это свидетельствует, что за 20 лет независимости Беларусь вышла на качественно новый виток своего развития и нуждается в **Новой политике**. В свое время В.И.Ленин пошел на НЭП (новая экономическая политика), которую, правда, вскоре прекратил И.Сталин. Неужели в XXI веке Беларусь будет следовать его политике управления? В таком случае общепланетарные тенденции развития быстро сметут и такую политику, и таких политиков.

В условиях белорусской действительности надежды людей на перемены к лучшему могут оправдаться, если власть во главе с президентом отважится пойти на **Новую политику**, которая откроет новые возможности для развития страны и шанс для сохранения преемственности действующей власти. Мы убеждены, что альтернативы **Новой политике**, кроме кровавой, не существует. Торможение общественных и политических процессов будет вести только к усилению негативных и застойных явлений в белорусском обществе.

У белорусского государства накопился немалый опыт для осуществления перемен. Почему бы власти не воспользоваться им и не провозгласить **Новую политику**? Продолжение рациональных, прагматичных, спокойных перемен в обществе и диалог о содержании этих перемен позволят в будущем избежать ненужных потрясений, откроют новые возможности для эффективного и системного решения возникающих перед страной и государством проблем.

Поскольку это прекрасно понимают политическая и хозяйственная элиты, а тем более научная и творческая, то в нашей специфичной и эксклюзивной политической ситуации остается для страны наиболее эффективный выход, когда первый президент Беларуси А.Г.Лукашенко, в дополнение к объявленной модернизации, выступит еще с одним Посланием народу **“О Новой политике и Диалоге”.**

“Лучше грешным быть, чем грешным слыть”, сказано у Шекспира. В белорусских условиях, скажем прямо, мы не видим эффективного механизма разрешения накопившихся проблем без доброй воли президента Беларуси А.Г.Лукашенко. Первый президент может повернуть страну, скажем так, с экстенсивного, на интенсивный путь развития. История знает примеры, когда мудрый правитель инициировал перемены, поддерживаемые обществом.

Наш подход основывается не на политических страстях, симпатиях или антипатиях, а на политическом рационализме, прагматизме, патриотизме и широком осмыслении исторической ретроспективы. Последнее позволяет более глубоко прочувствовать эксклюзивность нашего времени, когда белорусы-литвины вновь обрели государственность и суверенитет спустя более 600 лет со времени их потери (1386 г.). Исторический масштаб и значимость процессов, свидетелями и участниками которых мы являемся, подсказывает и особое отношение к первому президенту Республики Беларусь, которое может быть не менее уважительным, чем к первому королю Великого Княжества Литовского Миндовгу, основавшему княжество 6 июля 1253 года. Тогда сделать это было очень непросто, но Миндовг сделал, добившись благословления Папы Римского на свою коронацию.

В наше время, когда Беларусь оказалась в Европе в политической изоляции, было также непросто встретиться с Папой Римским, но А.Г. Лукашенко встретился с Бенедиктом XVI и неоднократно встречался с Патриархами Православной Церкви Алексием II и Кириллом.

Многие издержки нашего переходного периода проистекают из этой исторической эксклюзивности, требующей обустраивать независимость и суверенитет Беларуси впервые за 600 лет после их утери. 600 лет мы не имели возможности строить собственный дом. А сегодня строим. Исторический масштаб событий и историческая ответственность перед будущими поколениями требуют **Новой политики** и определяют поступки ответственных участников предстоящего Диалога, без которого этот процесс не может быть осуществлен.

### Новая политика

Можно ли налить новое вино в старые меха? Если нет, то какой еще выход? Держаться за старые порядки в ожидании краха? Почему бы не поступить приблизительно так, как это сделали в Сингапуре? Бывший президент, длительно правивший этой страной, пребывает в почете с авторитетным званием “отца нации”, а страна в первой десятке престижных рейтингов. На эти завоевания сингапурцам потребовались три десятилетия. Если объяснить прошедшие 18 лет особенностями белорусской геополитической ситуации и становлением независимости страны, то почему бы и белорусам не попробовать налить новое вино в старые меха? Тем более что наше стартовое положение лучше сингапурского. Первый президент может пойти на **Новую политику** под рукоплескание элит и большинства белорусов, если будет осуществлять ее всерьез и в интересах нации и людей. Эксклюзивность нашего времени, как отмечалось, заключается в первую очередь в том, что после многих исторических испытаний белорусы наконец-то строят свое суверенное государство. Это грандиозная удача для нашего поколения и, соответственно, огромная ответственность! Ответственность и перед предками, и перед будущими поколениями. Сегодня мы все, власть и оппозиция, первопроходцы. Так может, следует отбросить мелкое и суетливое? Исторический масштаб задач, стоящих перед страной, и жесточайшие императивы глобального мира требуют консолидированной политической воли и ответственности и, главное, политической мудрости. Построение и укрепление своей государственности — это всегда испытание для лидера нации, для руководства и народа, это главный экзамен на адекватность современным вызовам, на состоятельность белорусов как европейской нации. Если хватит у первого президента политической воли и решительности пойти на **Новую политику,** если сумеем мы, белорусы, консолидироваться вокруг **Новой политики** — тогда сможем решить все накопившиеся проблемы, укрепим независимость, защитим и сохраним суверенитет.

*(Окончание на 2-й стр.)*

ДИСКУССИЯ

# Диалог и новая политика

*(Окончание. Начало на 1-й стр.)*

Об идеях, которые могут составить содержание **Новой политики,** сказано и пересказано уже немало. Опыт такой политики драгоценностями рассыпан по всему миру. Как говорится, "бери — не хочу". Поэтому в данной статье мы не станем перечислять необходимое, как говорит А.Г.Лукашенко, "обновление". Нужен проект-план **Новой политики**. Необходимо его обсудить как властью в узком кругу, так и широкой общественностью. Значит, требуется Диалог. Диалог не кратковременный, а Диалог, как новое качество долговременной **Новой политики**. При таком подходе слово "модернизация" наполнится масштабным и более полным содержанием.

Отрицательный опыт "диалога" — "перестройки" в СССР у нынешних кадров власти, видимо, сидит в печенках, и скорее если не пугает их, то оптимизма к переменам не добавляет. Однако надо понимать, что тот советский "перестроечный" опыт, когда все понеслось в тартарары, свидетельствует о том, что опасно опаздывать и плестись в хвосте общественных и мировых трендов, что надо уметь мобилизовываться и крепко брать инициативу в свои руки. Все нужно делать вовремя и последовательно — шаг за шагом.

Конечно, никакая власть не пойдет на "самоубийство". Поэтому политическая модернизация, в варианте ныне действующей власти, может быть более эволюционной, нежели экономическая модернизация и обновление в других сферах (опыт Дэн Сяопина). Но и в этом случае, конечно, возникают вопросы о рисках для власти в процессе реализации **Новой политики**. Однако ясно и то, что без перемен риски для власти и президента будут неизбежными, а при реализации **Новой политики** их можно избежать.

Поскольку перемены лучше не откладывать, президент, в связи с объявлением им **Новой политики**, мог бы принять решение о переносе президентских выборов с 2015 года на февраль—март 2014 года, совместив выборы с референдумом об изменениях в Конституции. Досрочное проведение президентских выборов объясняется тем, что политическая воля для проведения **Новой политики** должна опираться на стабильную политическую власть того, кто проявил эту волю.

Начинать **Новую политику** целесообразно с изменений и дополнений в Конституцию, которая в своем нынешнем качестве выполнила задачу по становлению и развитию белорусской государственности. **Новая политика** требует дальнейших перемен и внесения соответствующих изменений в главный Закон. Какие должны быть изменения? Надо послушать разные мнения, а для этого нужен Диалог.

Например, в процессе диалога можно обсудить и принять решения о введении смешанной пропорционально-мажоритарной избирательной системы формирования парламента и местных Советов, прямых выборов мэров городов, районов и областей. Следует обратить самое пристальное внимание на вопрос о возвращении оппозиции в системный политический процесс, отчего выиграют не только оппозиция, но и государство. В рамках Диалога можно обсудить тему перехода к президентско-парламентской или парламентской форме правления, о структуре административно-территориального деления и местном самоуправлении и т.д.

Мы выскажемся лишь по возможным изменениям Конституции в той части, которая касается должности президента. Конечно, здесь разумно учитывать современный мировой опыт и, в частности, того же Сингапура, где "отец нации" почти 30 лет является ключевой фигурой, что не помешало, а, наоборот, стимулировало процессы успешного развития страны и вывело ее из нищеты на передовые позиции в мире. Поэтому главная проблема на современном этапе становления белорусской государственности не в том, что один человек руководит страной много лет, а в том, способен ли он консолидировать общество и добиться успехов, подобных сингапурским. Если первый президент Беларуси готов начать **Новую политику,** то изменения в Конституцию по вопросу президентства могут начать действовать позже, например, с 2020 года и касаться как полномочий президента, часть из которых следует передать другим ветвям власти, так и соответствующих процедур его избрания. Например, после 2020 года, как один вариант из множества, предлагаем ограничить пребывание в должности президента двумя сроками. Президент мог бы, например, избираться не прямым голосованием, а парламентом (двумя Палатами вместе или по отдельности, а может, только одной Палатой). Можно должность председателя Верхней Палаты преобразовать в должность президента с изменением полномочий. Первому президенту целесообразно присвоить звание почетного президента с определенными правами, статусом и т.д.

Основные положения **Новой политики**, направленной на модернизацию всех сфер жизни общества, следует закрепить в специальном законе, который будет обязывать всех, в том числе и тех, кто придет на смену, воплощать ее в жизнь. Такой подход обеспечит в среднесрочной исторической перспективе общественную стабильность и преемственность власти, независимо от новых властвующих фигур и партий.

## О диалоге

Ни **Новая политика**, ни Диалог не должны нам навязываться извне. Тем более если оппозиция (ее конструктивное крыло) и руководство страны, осознав необходимость **Новой политики,** будут совместно действовать в соответствующей последовательности: Диалог — Консолидация — Нация.

Диалог — это не просто некий единовременный общественный акт. Диалог с обществом — это основа **Новой политики**, которая опирается на поддержку элит, большинства граждан, в том числе и оппозиционных активистов. Сегодня белорусское руководство демонстрирует неплохое тактическое мастерство. Представители власти понимают, что стране необходим недорогой газ, работающие предприятия, хорошая инфраструктура и прочее. Однако в плане стратегии у нас развилась серьезная хромота. Президент А. Лукашенко сам говорит о том, что мы завалились на одно — восточное — крыло. Эффективная стратегия предполагает знание того, что нужно стране не только сегодня, но и в будущем. А будущее Беларуси вне общественного диалога понять и созидать трудно, поскольку диалог — необходимое условие общественного согласия, без которого настоящее плохо стыкуется или совсем не стыкуется с тем, что явит нам жизнь завтра и послезавтра.

Через диалог с обществом власть поднимет свой рейтинг, а оппозиция обретет лицо серьезного и ответственного субъекта белорусского системного политического процесса. А главное, и элита и контрэлита будут консолидировано работать на развитие страны, на формирование и становление нации, на укрепление молодого белорусского государства. То есть речь идет о поиске лучшего будущего для белорусов с помощью Диалога.

Отсюда вытекает необходимость дальнейшего развития гражданского общества, нового качества СМИ, нового качества политических партий общественных организаций и объединений и т.д. Без Диалога с обществом **Новая политика** будет мертва и обречена на неудачу. Диалог — это серьезная школа качественного развития гражданского общества. Диалог — это путь к консолидации нации, метод поиска конструктивизма в полярных идеях, школа компромисса, терпимости, поиска общественно-политического консенсуса.

Если власть найдет в себе силы и политическую волю и пойдет на **Новую политику**, то было бы весьма желательно создание с участием власти общественной организации "Общественная Палата народных представителей" (ОПНП), как долговременной площадки для диалога и обратной связи с населением, его организованной частью — партиями, организациями, объединениями. На этой площадке могли бы обсуждаться все идеи и подходы реализуемой **Новой политики**. Ее участниками и учредителями могли бы быть многие организации, в том числе и оппозиционные политические партии. Ведь прежде всего стране нужен не внешний диалог в Вильнюсе или Варшаве, а внутренний диалог с республиканским содержанием, конструктивный и без ультиматумов. Соответственно должен быть подготовлен Договор, который будет носить примирительный характер как компромисс между властью и оппозицией во имя **Новой политики**, во имя развития страны. Со временем Общественная Палата народных представителей может развиться, открывая свои филиалы в областных центрах, городах, районах, что подключит местное население, широкую общественность к генерации идей и решению соответствующих задач.

В заключение выражаем надежду на понимание наших предложений как со стороны власти, так и со стороны ответственных оппозиционных активистов. Мы не утверждаем нечто категоричное и не проповедуем крайности типа: "Да здравствует власть!" или "Долой власть!", "Выборы без Лукашенко!". Мы предлагаем вариант перехода к преимущественно гуманистическому государству. Во имя лучшего Беларуси мы предлагаем всем политикам быть ответственными за страну, мыслить конструктивно, искать компромиссы, двигаться к общественно-политическому консенсусу и консолидировать белорусское общество. Диалог, Консолидация, Нация — такой путь и в такой последовательности должна пройти Республика в процессе практической реализации **Новой политики**, что позволит белорусам оседлать, как это сделали сингапурцы, современные глобальные процессы, стать равными среди соединенных европейских наций. Мы убеждены, что раньше или позже **Новая политика** будет реализована, и Беларусь обязательно повторит опыт успешных народов.

### ОБ АВТОРАХ

### *Анатолий ЛЕВКОВИЧ*



С 1985 г. — организатор демократического движения в Беларуси, активный участник создания целого ряда общественных организаций и объединений.

Один из учредителей Белорусской социал-демократической партии (Грамада) (1991 г.). Долгое время руководил Брестской областной организацией и является ее почетным председателем. Дважды избирался председателем БСДП (2005 г., 2008 г.).

Один из руководителей в трех президентских кампаниях (С. Шушкевича, В.Гончарика, А. Козулина). Участник всех парламентских кампаний и большинства избирательных кампаний в местные Советы.

2007—2009 гг. — сопредседатель Объединенных демократических сил Беларуси (ОДС).

С 2012 г. — председатель Оргкомитета Республиканского общественно-просветительского объединения (РОПО) "Социал-демократы за диалог и консолидацию".

1979 — 2006 гг. — преподавание в Брестском государственном университете.

Кандидат философских наук, доцент. В 1984 г. защитил диссертацию по теме: "Динамика мировоззренческих оснований исследования природы человека (гносеологический и социокультурный аспекты)". Научные интересы и исследования — проблемы человека и общества, методология науки, научные картины мира.

### *Иван АНТАШКЕВИЧ*



Один из учредителей Партии народного согласия (1992 г.), заместитель председателя БСДП (Громада) в 2007—2010 гг. Инициировал создание Республиканского союза ЖКХ, который возглавлял до 2003 г.

Член-корреспондент Международной академии организационных и управленческих наук, экс-директор фонда "ЭКОН".

До 1989 г. — работа в строительстве и системе городского хозяйства. Позже — главный инженер строительного управления, помощник председателя Мингорисполкома, зампредседателя Первомайского райисполкома, начальник управления жилищного хозяйства Мингорисполкома, президент "Минскбизнесбанка", гендиректор концерна "Анкор".

АФІЦЫЙНА

## *Толькі б не збяднелі*

Дэпутаты і сенатары будуць ездзіць на ўласных аўто за дзяржаўны кошт. Кожны з народных абраннікаў зможа праехаць бясплатна амаль паўтары тысячы кіламетраў.

Савет міністраў прыняў пастанову, згодна з якой затраты на бензін будуць кампенсавацца з бюджэту. Ліміт — сем базавых на месяц. На сёння гэта 700 тысяч рублёў. Але ці так ужо матаюцца па сваіх акругах народныя абраннікі і тым больш — сенатары? Хутчэй можна казаць пра выдаткі на паездкі з Мінска да сем'яў, бо шмат хто з дэпутатаў так і не перавозіў родных у Мінск.

СДЕЛКА

## *Чьи деньги приходят из Швейцарии?*

Владельцы рынка "Ждановичи", бизнесмены **Евгений Шигалов** и **Михаил Прокопович**, почти за 5 миллионов евро продали принадлежащий им же "Евробанк". Владельцем 99,9995% акций банка стала компания EURO SET HOLDING SA, зарегистрированная в каньоне Женева. Владельцы компании — некто Ольвье Крамер (гражданин Франции) и Андрюс Урбонас (гражданин Литвы).

РЭГІЁН

## *Эмігрант з ЗША купіў былы Дом піянераў у Баранавічах*

Двухпавярховы дом, які месціцца каля чыгуначнага вакзала, ён набыў на аўкцыёне ў Брэсце за 58 тысяч долараў.

Першапачаткова за будынак (дарэчы, помнік архітэктуры) прасілі 240 тысяч долараў. Вядома, што ў аўкцыёне ўдзельнічаў толькі адзін чалавек. Інтарэсы згаданага эмігранта прадстаўляла яго сястра, якая жыве ў Баранавіцкім раёне.

Адзначым, што раней у будынку месціўся Дом піянераў, пасля — тэхнікум. Плошча дома — каля 700 квадратных метраў.

ЖАХ!

## *Бацька і сын гвалтавалі сірот*

*Жудасны скандал адбыўся ў Светлагорскім раёне. Агідная, брудная, страшная гісторыя.*

Пацвердзіліся самыя страшныя чуткі пра тое, што адбывалася ў адным з дзіцячых дамоў сямейнага тыпу. Бацька і сын затрыманы па падазрэнні ў здзяйсненні гвалтоўных дзеянняў у дачыненні да непаўналетніх прыёмных дзяцей.

*"У вытворчасці Упраўлення Следчага камітэта па Гомельскай вобласці знаходзіцца крымінальная справа, распачатая ў дачыненні да памочніка выхавальніка (прыёмнага бацькі) аддзела адукацыі Светлагорскага райвыканкама. Ён абвінавачваецца ў згвалтаванні непаўналетняй, якая пражывала разам з ім у якасці прыёмнага дзіцяці",* — паведаміла ў чацвер афіцыйны прадстаўнік УСК па Гомельскай вобласці Марыя Крываногава.

Яна ўдакладніла, што 43-гадовы мужчына заключаны пад варту, яму прад'яўлена абвінавачванне ў згвалтаванні прыёмнай дачкі 1997 нараджэння. *"У ходзе расследавання дадзенай крымінальнай справы следчым органам стала вядома аб супрацьпраўнай дзейнасці 16-гадовага сына абвінавачанага",* — распавяла Марыя Крываногава. У дачыненні сына ўзбуджана крымінальная справа па ч.3 с.167 КК (гвалтоўныя дзеянні сексуальнага характару, учыненыя ў дачыненні да заведама малалетняй. *"Пацярпелай па гэтай крымінальнай справе прызнана дзяўчынка 2006 года нараджэння, якая раней таксама жыла ў вёсцы Казлоўка ў дзіцячым доме сямейнага тыпу",* — удакладніла прадстаўнік УСК.

Цяжка паверыць, што жонка і маці мужчын, якія гвалтавалі сірот, ні пра што не ведала і не здагадвалася. Але жанчына зараз, нібы з шорамі на вачах.

*"Мы з ім пражылі 12 гадоў, —* гаворыць яна. - *І ўвесь гэты час мы жылі, як у казцы. Пазнаёміліся праз часопіс" Гаспадыня". У мяне не атрымлівалася нарадзіць дзяцей. І, калі я развялася з першым мужам, напісала аб'яву ў "Гаспадыню", што шукаю мужчыну з дзецьмі... Ён пераехаў потым да мяне са сваімі двума дзецьмі — хлопчыку яго было 4 гады, а дзяўчынцы было 7. Былую яго жонку пазбавілі бацькоўскіх праў... Ён не п'е, я яму давярала. Я з'язджала на лячэнне перыядычна, у Мінск, ва Украіну — зрок лячыць. Ён дзяцей глядзеў увесь гэты час адзін. І ўсю гаспадарку глядзеў. Ён жа майстар на ўсе рукі. Яго ручкі ўсё ў гэтым доме зрабілі, ён сам рамонт зрабіў, ён вышывае паглядзіце як... Вы ведаеце, гатовая яму дараваць. Ён мне столькі дабра зрабіў! Як толькі лішняя капейка — ён і садавіну, і золата мне, і ўсё на свеце. Але калі было памутненне такое, значыць, ён сам усё сваё дабро і перакрэсліў".*

**Ігар МАРОЗАЎ.**

БЛІЦ

*Прымаючы з дакладам дзяржаўнага сакратара Савета бяспекі* ***Леаніда Мальцава****,* ***Аляксандр Лукашэнка*** *заявіў: "Як мы рыхтуемся да парада, як мы яго будзем праводзіць? Ён павінен быць аптымальным, але эканоміць на істотным нельга — лепш не праводзіць парад наогул, чым праводзіць толькі б для таго, каб правесці".*

*2013 год, як вядома, абвешчаны Годам беражлівасці. Калі гавораць пра вызваленне Беларусі, Перамогу, незалежнасць нашай краіны, то ён не юбілейны, не нейкі асабліва важны. Таму мы вырашылі пацікавіцца ў самых розных людзей:*

# Ці варта эканоміць на парадзе? І наогул, ці трэба яго праводзіць?

### Каліса ПАМАЗАНАВА, пенсіянерка:

— Мой тата загінуў на фронце ў 1942 годзе. Я не буду нават і казаць, як было цяжка тым, у каго бацькі не вярнуліся з вайны. Была перамога і быў той доўгачаканы Парад Перамогі, а потым даволі доўгі час ніякіх парадаў асабліва і не было. 9 Мая паміналі тых, каго няма з намі. Тады ж яшчэ і матулі былі жывыя, у каго сыны загінулі. А цяпер?..

Была ўчора ў вёсцы на Мядзельшчыне. Ніводны ліхтар не гарыць. Мясцовыя кажуць, што звярталіся ў сельсавет, а ў адказ: "Эканоміць трэба, Год беражлівасці". А там жывуць бабулькі, якія перажылі вайну, нацярпеліся будзь здароў. Што ім той парад у Мінску? Калі яны з ліхтарыкам будуць прабірацца ў прыбіральню за хлеў альбо баяцца лішні раз на двор выйсці, каб паглядзець, ці ўсё там у парадку, ці ж будзе ім лягчэй ад таго, што недзе далёка ў сталіцы па вуліцах пройдуць танкі ды ваенныя самалёты праляцяць над галовамі мірнага насельніцтва? Лепш бы ветэранам аказалі матэрыяльную дапамогу, каб яны маглі сабе нармальную ежу набыць, купіць неабходныя лекі ці заплаціць за рамонт у кватэры. Іх ужо і так адзінкі засталіся.

### Арцём ШАРКО, кіраўнік асветніцкай установы «За аўто»:

— Вось зараз рамантуюць праспект Незалежнасці. Але ён і так няблага выглядаў. Робіцца паказуха, а потым хоць трава не расці.

Праблем цяпер занадта шмат на дарогах, у дварах, на кальцавой, на трасах рэспубліканскага значэння. У дарожнай сферы проста бяда. Бюджэт на першае паўгоддзе быў ледзь не цалкам выдаткаваны, каб пагасіць крэдыты і запазычанасці па заробках, а таксама, каб разлічыцца з пастаўшчыкамі за мінулы год. Так што грошай няма. А цяпер чакаецца парад...

### Лідзія АЎТУХОВІЧ, маці палітвязня Мікалая Аўтуховіча:

— Што мне з таго парада?.. Мяне абсалютна не цікавіць, за якія грошы яго зробяць, колькі там тэхнікі задзейнічаюць. У мяне проста няма ніякай нагоды, каб радавацца. Мой сын за кратамі ў жудасных умовах. Я не магу проста жыць з гэтым. Які тут парад? Усё спадзявалася, што выпусцяць яго на Вялікдзень, але...

### Леанід ДЗЕЙКА, дэпутат Вярхоўнага Савета 12-га склікання:

— Тое, што кіраўніцтвам прынята рашэнне правесці парад на самым высокім узроўні, нягледзячы на ўсе фінансавыя затраты, сведчыць аб тым, што гэта адзін з падмуркаў, на якім трымаецца ідэалагічная аснова ўсёй беларускай улады. Калі б гэтыя грошы Міністэрства абароны змагло размеркаваць і выкарыстаць унутры войскаў на паляпшэнне ўмоў быту ваеннаслужачых, на нейкае пераўзбраенне, абнаўленне, то было б значна больш карысці. Тым больш што парады ператварыліся ў нешта неадэкватнае сённяшняму часу і больш нагадваюць відовішча, якое ўласціва афрыканскім дыктатарскім і аўтарытарным рэжымам. Лічу: тое, што кіраўнік краіны хоча правесці дэманстрацыю моцы на высокім узроўні, ускосна сведчыць аб тым, што папярэднія парады ў недастатковай ступені падабаліся галоўнакамандуючаму. Можа, яму хочацца большай зладжанасці, каб салдаты былі больш падобныя на робатаў?.. Але ўсё гэта — каб прадэманстраваць, што мы можам сябе абараніць. Трэба паказаць, што ў нас абстаноўка абложанай крэпасці і мы будзем стаяць за яе, не шкадуючы нават апошняга рубля.

Хоць хто на нас нападае?

### Тамара МАЦКЕВІЧ, намесніца старшыні Таварыства беларускай школы:

— Калі нейкія ўрачыстасці хочуць зрабіць менавіта для людзей, то тады варта было б адмовіцца ад гэтых сумных штампаў і звярнуць увагу на досвед іншых краін. Як, напрыклад, у той жа Германіі людзі могуць паглядзець на парад аркестраў, паўдзельнічаць у нейкіх конкурсах, наведаць кавярні, патанчыць, паспрабаваць нейкія стравы, заняць нечым цікавым дзяцей. А тое, што нам прапануюць сёння, ніяк нельга назваць святам. Звычайныя жыхары сталіцы імкнуцца ў гэты дзень быць за межамі горада, каб не бачыць і не мець нейкіх праблем з боку п'яных, а тыя, у якіх няма такой магчымасці, імкнуцца без асаблівай патрэбы ўвогуле не выходзіць з дому. Масавасць відовішчаў ствараюць чыноўнікі, актывісты праўладных маладзёжных і прафсаюзных структур, якія па загадзе зверху шпацыруюць падчас усіх свят па цэнтры Мінска.

**Любоў ЛУНЁВА.**

ЖУРНАЛІСЦКІ ЭКСПЕРЫМЕНТ

# Выйсці з ценю...

Старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька нядаўна зрабіў гучную заяву. *"Мы ледзь не адзіныя, хто гатовы прадставіць свой урад і назваць яго пайменна. Мы можам паказаць каманду. Справа ў тым, што сацыялогія сведчыць: людзі ўжо наеліся "жорсткай рукі", якая ўсё трымае і ўсім пагражае кулаком. Людзі хочуць прафесіяналізму і хочуць бачыць каманду прафесіяналаў",* — заявіў старшыня АГП.

З аднаго боку, старшыня АГП нікога не здзівіў. Так, патрэбна каманда. Так, людзі хочуць быць упэўненымі, што апазіцыя мае прафесіяналаў, якія здольны кіраваць самымі рознымі галінамі эканомікі і краінай. Але з другога боку, беларуская грамадскасць прызвычаілася ўжо да таго, што час ад часу гучаць заявы аб стварэнні і дзейнасці ценявых урадаў, сфарміраваных той ці іншай арганізацыяй. З'яўляліся нават спісы асоб, якія будуць несці самыя розныя партфелі ў выпадку, калі ўлада зменіцца. Але што стаіць за такімі заявамі? "Народная Воля" вырашыла правесці эксперымент.

Тэма медыцынскага абслугоўвання зараз на слыху. Той рэзананс, які выклікала смерць дзяўчыны пасля простай аперацыі ў "Экамедсэрвісе", не толькі не сціх, але набірае абароты. Дазволіўшы публічна абмяркоўваць праблему няякаснага лячэння і няздольнасці пацыентаў дабіцца праўды ад урачоў, улады нібы скрынку Пандоры адчынілі. Высветлілася, што колькасць тых, хто не задаволены якасцю медыцынскага абслугоўвання, проста зашкальвае. Прэтэнзій да айчыннай медыцыны не проста шмат — а надзвычай шмат. Прэтэнзій урачоў да ўмоў, у якіх яны вымушаны працаваць, таксама многа. Карацей, кубло праблем. Вось мы і вырашылі знайсці будучага міністра аховы здароўя ў ценявым урадзе, сфарміраваным Аб'яднанай грамадзянскай партыяй, і абмеркаваць з ім гэтыя тэмы. Лагічна, што кандыдат на такую высокую пасаду павінен не проста чакаць партфель, а даказваць сваю, так бы мовіць, "прафесійную прыдатнасць", мець сваё бачанне праблем галіны і шляхоў іх вырашэння.

Так пачаліся пошукі будучага міністра. Старшыня АГП Анатоль Лябедзька адразу загасіў наш энтузіязм. Ён папрасіў прозвішча "ценявога міністра" ў газеце не называць, патлумачыўшы, што кандыдат працуе ў дзяржаўнай установе і публікацыя можа яму пашкодзіць. А потым (нібыта параіўшыся з "ценявіком" па тэлефоне) і ўвогуле паведаміў, што той не хоча даваць інтэрв'ю. Маўляў, чалавек згубіць працу... Каму ад гэтага будзе лепш?..

Дзіўная, канешне, сітуацыя. Ва ўсіх краінах "ценявыя" міністры ўсяляк даказваюць свой прафесіяналізм і працаздольнасць, аналізуючы, разбіраючы па костачках усе рашэнні ўрада дзеючага, выступаючы самымі актыўнымі і самымі падрыхтаванымі экспертамі ў сваёй галіне. А ў нас "ценявыя" міністры прыроўнены да нямых? Дык як жа яны прыйдуць да ўлады? Хто і дзеля чаго іх туды прывядзе?.. І як іх успрымуць людзі?



Пытанняў шмат, таму, нягледзячы на просьбы старшыні АГП, мы ўсё ж вырашылі расшукаць будучага міністра аховы здароўя. Ягонаму здзіўленню не было межаў.

— *Які міністр? З чаго вы ўзялі? Першы раз чую. Недзе ў 2005 годзе я ўдзельнічаў у напісанні праграмы, але калі гэта было... Ніхто мне нават не казаў, што я ўваходжу ў нейкі ценявы ўрад. Я проста працую доктарам і працую нармальна. Ніякіх грандыёзных палітычных планаў не маю. Рэалізую сябе там, дзе працую. Што да прэтэнзій да нашай медыцыны, то яна шмат у чым адпавядае ўсім сучасным патрабаванням. І з прыватнымі цэнтрамі скандалы былі штучна надзьмутыя. Папросту прыватная медыцына стала дэманстраваць сваю аўтарытэтнасць, а дзяржава гэтага не можа цярпець. Што да майго "міністэрскага" партфеля, то са мной ніхто гэтую ініцыятыву не ўзгадняў. Як так адбылося? Мне падаецца, што прычына тут у флангавым дэфіцыце ў партыі. Рэсурсаў, людзей становіцца ўсё менш і менш.*

Такім чынам, пытанняў стала яшчэ больш, чым да пачатку гэтай размовы. Разумны чалавек, выдатны доктар. Але ці дастаткова гэтага, каб быць міністрам? Нават тэарэтычна.

Тое ж тычыцца і шматлікіх "ценявых урадаў". Ці патрэбны нам яны, калі сядзяць ціхенька як мыш пад венікам і баяцца, каб іх не рассакрэцілі? А, можа, усё гэта з'яўляецца чыстым піярам спадара Лябедзькі?

**Дар'я СОЛТАН.**

